**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 11 (884) 16 сакавіка 2017 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by



**Біскуп Алег Буткевіч наведаў прыватную галерэю Ады Райчонак у Германавічах.**
*Фота Зм. Лупача.*



ISSN 2077-8023



Віцебская вобласць

# Людзям, сапраўды, баліць

■ Чэслаў Якубовіч.

**Услед за сталіцай і некаторымі іншымі буйнымі гарадамі Беларусі нечакана вельмі масавай стала акцыя пратэсту супраць дэкрэта № 3 "аб дармаедах", якая адбылася днямі ў Віцебску.**

У абласным цэнтры яе арганізацыяй ніхто не займаўся, нават мегафона не было, але на вуліцы і плошчы горада выйшла да двух тысяч чалавек. Адбылося гэта дзякуючы інфармацыі з сацыяльных сетак. Цяперашняе няпростае жыццё прымусіла гараджан адкрыта сказаць аб тым, што іх найбольш трывожыць. Дарэчы, напярэдадні амаль 40 чалавек прыйшло на асабісты прыём да мэра горада В. Нікалайкіна, яшчэ 610 грамадзян звярнуліся ў гарвыканкам наконт вызвалення ад выплат гэтага збору ў сувязі з цяжкімі жыццёвымі абставінамі. Яшчэ болей, 5 гадзін працягваўся прыём людзей памочніка Прэзідэнта, галоўнага інспектара па Віцебскай вобласці А. Пазняка па пытаннях так званага сацыяльнага ўтрымантсва. Тым не менш тысячы людзей, каб іх пачулі ўлады, не пабаяліся выйсці на плошчу. Там праводзіліся масленічныя гулянні і віцябляне розных узростаўадразуарганізаваным шэсцем перайшлі на іншае месца, каб землякам не перашкаджаць. Ніхто з міліцыі іх не чапаў, а самыя папулярныя слоганы гучалі "Жыве Беларусь!" і "Уходи!". Праўда, трое невядомых, якія хавалі перыядычна свае твары, спрабавалі крычаць "Слава России!", але ніхто іх не падтрымаў. У падтрымку пратэстуючых сігналілі многія праязджаўшыя паблізу машыны. Галоўнае цяпер, каб голас пакрыўджанага народа пачулі ўлады, бо сітуацыя няпростая ў эканоміцы і патрабуе адэкватных, узважаных рашэнняў.

Лёзненскі раён

# Руіны замест майстэрні

■ Станіслаў Раманчук.

**Людзям асабліва старэйшага пакалення найбольш балюча назіраць зараз за трывожнымі працэсамі, якія адбываюцца ў сельскай мясцовасці.**

Там, дзе ў іх шчаслівую пару маладосці жыццё бурліла, зараз толькі на лічаных панадворках людзі трымаюцьнейкуюжыўнасць. Сёлета на Віцебшчыне горкая працэдура банкруцтва чакае нават ужо 15 гаспадарак, будуць закрыты яшчэ чатыры дзясяткі малакамплектных школ у глыбінцы. Проста на вачах на вёсцы рушыцца і прыходзіць у запусценне створанае папярэднімі пакаленнямі калгаснікаў, як гэта адбылося напрыканцы зімы ў Лёзненскім раёне. Уся краіна даведалася пасля рэпартажу па тэлеканале АНТ пра абрушэнне будынка былых майстэрань мясцовага сельгаспрадпрыемства "Выдрэя". Яго паспрабавалі вывесці на рэнтабельную і паспяховую дзейнасць і зрабілі адным з філіялаў Віцебскага аддзялення Беларускай чыгункі. Новыя гаспадары вывелі з эксплуатацыі аварыйнае памяшканне савецкай пабудовы два гады назад. Работнікі гаспадаркі стараліся абыходзіць яго бокам і туды без патрэбы не заходзіць. Сельскагаспадарчая тэхніка захоўвалася ў новых ангарах, дзе і праводзіўся яе рамонт. У старым жа зачыненым будынку пакінулі некалькі старых дабітых трактароў і яшчэ спісаныя агрэгаты і запчасткі. Знесці ж аварыйны аб'ект усё ніяк рукі не даходзілі, а цяпер гэтым міжволі заняліся. Старая майстэрня рухнула, калі грунтовыя воды падмылі апоры. На шчасце, у момант здарэння нікога з людзей паблізу не было і ніхто не пацярпеў, аднак гэты інцыдэнт стаў прыкладам існуючых праблем АПК і айчыннай нерэфармаванай эканомікі.

Пастаўскі раён

# Няма за што будавацца

■ Кастусь Александровіч

**З кожным днём прыходзіць усё больш сведчанняў таго, якім няпростым будзе гэты год для беларусаў.**

Вось і ў Пастаўскім раёне праграма па жыллёвым будаўніцтве на 2017 год апынулася ўжо пад пагрозай зрыву. Адбылося гэта таму, што рэгіёну сёлета не выдзелілі зусім ільготных крэдытаў для насельніцтва на долевае ўзвядзенне кватэр. Напэўна, ва ўладных кабінетах зверху палічылі, што пастаўчане і так нядрэнна сябе пачуваюць, бо летась там пабудавалі і здалі ў эксплуатацыю звыш 11,5 тысяч кв. метраў жылплошчы. У прыгожым месцы райцэнтра на беразе возера Задзеўскае, сапраўды, справілі наваселле тады жыхары двух новых 60-кватэрных жылых дамоў. Яшчэ адна шматпавярхоўка на 12 кватэр з усімі зручнасцямі была пабудавана ў аграгарадку Хацілы пабізу Пастаў. Таксама быў узведзены прыгожы двухпавярховы катэдж, сямейны дом для дзяцей-сірот. У высокай ступені гатоўнасці да здачы былі яшчэ тры 4-кватэрныя жылыя дамы ў вёсцы Коўзнаы паблізу рабатызаванай фермы. На жаль, сёлета такая добрая парктыка можа спыніцца, хоць праектная дакументацыя на яшчэ адзін новы 40-кватэрны жылы дом зроблена, там быў зроблены задзел на пачатак будаўніцтва. Вось толькі ўзводзіць жыллё ў ім можа той, хто мае патрэбныя сродкі, а такіх аказалася пакуль толькі 15 сем'яў. Каб прадоўжыць будоўлю, патрэбна яшчэ столькі жадаючых. Надзея, што з'явяцца багатыя людзі з іншых куткоў, бо кошт кв. метра ў доме сучаснай планіроўкі з рэгуліроўкай падачы цяпла даволі прымальны і складае 800 рублёў. Але ж з грашмі ў большасці з нас зараз няпроста…

# Аб самым надзённым

## СУПРАЦЬСТАЯННЕ З КРАМЛЁМ СКОНЧЫЛАСЯ ПАВЫШЭННЕМ ДЛЯ БЕЛАРУСІ ЦЭН НА РАСІЙСКІ ГАЗ ЗАДНІМ ЧЫСЛОМ



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Як вядома, кошт газу заўсёды прывязваўся да сусветных цэн на нафту, якія адчувальна зменшыліся. Але ў белакаменнай Маскве, офісах манапаліста "Газпрама" гэты факт прызнаваць не хочуць. Невыпадкова цяпер расійскія міністры ставяць ультыматум, што пакуль Беларусь не пагасіць запазычанасць па аплаце ўжо нібыта 600 млн. долараў доўгу за газ, ніякіх іншых рэжымаў паставак энерганосьбітаў не будзе, прадоўжыцца і зніжэнне паставак нафты ў Беларусь.**

Канфлікт наконт паставак расійскага газу ў Беларусь абвастрыўся яшчэ летась. Суседнія краіны цэлы год вялі спрэчкі наконт цэн на "блакітнае паліва", але да кампрамісу так і не прыйшлі. Па выніках 2016 года, як вядома, беларускі ВУП яшчэ больш скараціўся з-за таго, што Расія скараціла пастаўкі нам нафты, а абураны беларускі лідар праігнараваў снежаньскі саміт структур ЕАЭС і Саюзнай дзяржавы. Дагэтуль было цэлых 8 падобных спрэчак энергетычных кампаній абедзвюх дзяржаў, а найбольш вострыя назіраліся напрыканцы 2006 года і летам 2010 года, калі на кароткі перыяд беларусам нават у навагоднюю ноч адключалі пастаўкі газу, а пазней "Газпрам" прыгразіў рэзка іх скараціць.

На шчасце, тады саюзнікі праблемы ўзаемных даўгоў (Расія была нам вінавата 220 млн. долараў за транзіт свайго газу ў Еўропу) вырашылі, хоць ціха, без публічных разборак не атрымалася. Іншая справа – цяперашнія супярэчнасці заклятых "саюзнікаў". Нам абяцалі, што ў І-м квартале гэтага года супрацьстаянне закончыцца. Пра гэта прама казаў беларускі галоўны перамоўшчык, віцэ-прэм'ер урада Беларусі У. Сямашка. Але ці яго падманвалі расійскія калегі, ці грамадскасць проста супакойвалі, на справе выйшла непрыгожа. Беларусі так і не ўдалося знайсці кампраміс з суседзямі, наблізіцца да ўнутрырасійскіх цэн на газ.

Горш таго, заднім чыслом Крэмль з 1 студзеня 2017 года павысіў кошт расійскага газу для нас адразу на 6,81 % да 141,1 USD за тысячу кубаметраў. Неўзабаве пасля гэтага ўжо прэм'ер-міністр Беларусі А. Кабякоў абурыўся такімі несяброўскімі паводзінамі на пасяджэнні міжурадавага савета ЕАЭС у Бішкеку. Сапраўды, што гэта за такі "братэрскі" саюз, калі дамовіліся гуляць па адзіных правілах, паступова зніжаць цэны на газ, а на самой справе яны выраслі на 38 % у пачатку 2014 года. Розніца ў цэнах на гэта паліва паміж Расіяй і Беларуссю вырасла летась да 110 %. Кіраўнік беларускага ўрада абураўся справядліва, бо замест зняцця розных бар'ераў і абмежаванняў, мы натыкаемся на глухую сцяну.

І што б вы думаеце, пачула ў адказ беларуская дэлегацыя ад другога па ўплыве чыноўніка ў расійскай дзяржаве, які поўнасцю аказаўся замешаным у карупцыйным скандале, валодае мільярднымі багаццямі і шыкоўнай нерухомасцю на фоне дзясяткаў мільённаў расійскіх беднякоў? "Дзімон", як назвалі Мядзведзева асобныя СМІ, адрэагаваў на рэпліку калегі з Мінска рэзка, калі вам не падабаецца такі расклад, то ніхто сілай беларусаў у ЕАЭС не трымае. На мой погляд, рэакцыяй найперш пуцінскай правячай каманды леташні эканамічны канфлікт інтарэсаў у нафтагазавай сферы перайшоў у фазу ўжо палітычнага супрацьстаяння.

Як вядома, кошт газу заўсёды прывязваўся да сусветных цэн на нафту, якія адчувальна зменшыліся. Але ў белакаменнай Маскве, офісах манапаліста "Газпрама" гэты факт прызнаваць не хочуць. Невыпадкова цяпер расійскія міністры ставяць ультыматум, што пакуль Беларусь не пагасіць запазычанасць па аплаце ўжо нібыта 600 млн. долараў доўгу за газ, ніякіх іншых рэжымаў паставак энерганосьбітаў не будзе, прадоўжыцца і зніжэнне паставак нафты ў Беларусь. Як падаецца, такая жорская пазіцыя Крамля абумоўлена найперш няпростым эканамічным становішчам расійскай эканомікі. А галоўнае, у крамлёўскіх кабінетах пануе злосць і абурэнне на афіцыйны Мінск і пераважнае жаданне даказаць, хто на постсавецкай прасторы застаецца галоўным.

Любы канфлікт – справа непрыемная, вось і гэта нафтагазавае супрацьстаянне з цягам часу скончыцца. Аднак у любым выпадку нам плаціць за газ прыйдзецца, можа на гэта спатрэбіцца ўзяць сродкі і з дзяржбюджэту. Вось толькі негатыў пасля гэтых зацяжных разборак у любм выпадку застанецца, а мы яшчэ раз пераканаемся, што вось справы сумлення з Расіяй нікому ў свеце не варта, як гэта адбылося ўжо з "братэрскай" для Крамля Украінай з наступным захопам Крыма і ваеннай інтэрвенцыяй у Данбасе. Як бы ні разгортваліся далейшыя падзеі, не адбіцца ад думкі, што сам гэты саюз ЕАЭС і папярэдні Мытны саюз на самой справе сыры, недасканалы. Нават фарміраванне агульнага рынку энерганосьбітаў чамусьці аднеслі на далёкі 2025 год. Між тым тавараабарот паміж Беларуссю і Расіяй упаў да ўзроўню крызіснага 2009 года. Стаўка на аднабаковую інтэграцыю на ўсходнім напрамку сябе не апраўдвае, бо пуцінская Расія развіваецца дрэнна, а ў цэлым эпоха "братэрскай інтэграцыі" заканчваецца. Вось чаму нам летась амаль на чвэрць знізілі пастаўкі нафты, а зараз яшчэ болей павысілі цэны на газ.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 16.03.17 | | | | Пятніца 17.03.17 | | | | Субота 18.03.17 | | | | Нядзеля 19.03.17 | | | | Пн.20.03. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +1 | +1 | +3 | +2 | 0 | -1 | +4 | +4 | +2 | 0 | +3 | +1 | +2 | +2 | +2 | 0 | -3 | -2 | +1 |
| Ціск | 743 | 741 | 742 | 746 | 747 | 746 | 743 | 739 | 734 | 734 | 734 | 733 | 730 | 728 | 729 | 734 | 736 | 735 | 732 |
| Вецер м/сек | 6 З | 5 З | 5 Пн-З | 3 Пн-З | 3 З | 4 Пд | 8 Пд-З | 8 Пд | 7 Пд | 4 З | 6 З | 4 Пд | 5 Пд-У | 5 Пд-У | 6 З | 7 Пн-З | 5 З | 3 Пд | 5 Пд |
| Вільготнасць | 94 | 96 | 85 | 88 | 93 | 93 | 62 | 77 | 94 | 100 | 73 | 84 | 91 | 97 | 91 | 69 | 87 | 89 | 67 |

## Дзень за днём

**Тавараабарот Беларусі і РФ упаў на ўзровень крызіснага 2009 года. На 100 тысяч зменшылася летась колькасць працуючых на айчынных прадпрыемствах. У Беларусі ўвялі мараторый на праверкі магазінаў гандлёвымі інспекцыямі. У студзені ВУП Беларусі знізіўся яшчэ на 0,5 %, цэны выраслі на 0,9 %. Летась Беларусі не ўдалося прадаць ніводнага праблемнага дзяржпрадпрыемства. Беларусь увайшла ў лік буйнейшых у свеце экспарцёраў зброі. За саюз з Расіяй зараз 65 % беларусаў, 19 % - за ўступленне ў ЕС, 1,7 % апытаных жадаюць аб'яднацца з РФ у адну дзяржаву. Беларускую граніцу закрылі для асоб з пашпартамі "ДНР" і "ЛНР". На новыя праграмы школы поўнасцю перавядуць у 2021/2022 навучальным годзе.**

# Важнейшыя навіны свету

**Сірыя.** На пасляваеннае аднаўленне поўнасцю разбуранай краіны Расія прапанавала ЕС выдзеліць дзясяткі млрд. еўра, гэта ідэя не выклікала падтрымкі на Захадзе.

**Бельгія.** Глава ЕС Жан-Клод Юнкер пацвердзіў, што Англія павінна будзе заплаціць Еўрасаюзу 57 млрд. еўра за свой выхад з садружнасці дзяржаў кантынента.

**ЗША**. Напрасна Д. Трамп думае, як заявіў палітолаг Іэн Біррэл, што ён зможа пераканаць тырана КНДР Кім Чэн Ына адмовіцца ад ядзернай зброі ў беднай краіне-ізгоі ў свеце.

**Малайзія.** Паліцэйскія эксперты краіны заявілі, што старэйшага брата лідара КНДР Кім Чэн Ына забілі ў аэрапорце баявым атрутным рэчывам, нервова-паралітычным газам VX.

**Расія.** Міністр абароны РФ генерал арміі С. Шайгу заявіў перад студэнтамі, што ў заапарках Брытаніі яшчэ не вырас такі звер, каб указваць, што рабіць рускаму мядзведзю.

**Англія.** Газета "Financial Times" паведаміла, што ГРУ Расіі за апошні год на 60 % павялічыла хакерскія кібератакі на серверы НАТО і на 20 % - на структуры Еўрасаюза.

**Украіна.** Былы "народны мэр" Севастопаля і дзеючы дэпутат гарсавета А. Чалы прызнаў, што разам з паплечнікамі рыхтаваліся да захопу прарасійскай улады ў 2004 і 2008 гадах.

**Германія.** МУС краіны пацвердзіла, што за апошніх паўгода атрымала заявы аб прадастаўленні палітычнага прытулку ад 136 дыпламатаў з Турцыі і членаў іх сем'яў.

**Расія.** Глава Рассельгаснагляду С. Данкверт абвінавціў беларускіх чыноўнікаў у ЕЭК у сабатажы расійскіх прапаноў і лабіраванні інтарэсаў беларускіх вытворцаў малака.

**Францыя.** Невыпадкова тэлефанаваў у Сочы Лукашэнку, як заявіў казахскі мільярдэр М. Аблязаў, Назарбаеў – марыянетка Пуціна, ён не падтрымлівае калегу па Мытным саюзе.

**Грузія.** Праз амаль 5 гадоў перамоў савет ЕС зацвердзіў уваздзенне бязвізавага рэжыму паездак для грузінскіх грамадзян на тэрмін да 90 дзён за паўгода акрамя Англіі, Ірландыі.

**Швецыя.** Пасля хваляванняў з падпалам машын у паўночным прыгарадзе Стакгольма на вуліцы шэрагу раёнаў сталіцы паліцыя вывела ўзмоцненыя патрулі, пачала следства.

**Расія.** У эфіры тэлеканала "Россия 1" глава Рассельгаснагляду С. Данкверт заявіў, што ўстрымаецца з падначаленымі ад паездак у Беларусь, бо там "не нравится освоение".

**Венгрыя.** Актывісты маладзёжнага руху прымусілі муніцыпалітэт Будапешта адмовіцца ад заяўкі правядзення летняй Алімпіяды-2024, а патраціць грошы на бальніцы і школы.

**Расія.** На сустрэчы з мэрам Масквы С. Сабяніным У. Пуцін запатрабаваў знесці ўсе сталічныя хрушчоўкі і на іх месцы пабудаваць новыя жылыя дамы для масквічоў.

*Служба інфармацыі "ВГ"(па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

## Прэзідэнт даручыў перагледзець мінімальны страхавы стаж для ваенных




■ FINANCE.TUT.BY

**Праблема страхавога стажу для ваеннаслужачых павінна быць вырашана, заявіў Аляксандр Лукашэнка на нарадзе па выніках дзейнасці праваахоўных органаў ў 2016 годзе і пытаннях аптымізацыі праваахоўнай і судовай сістэм. Пра гэта паведамляе прэс-служба прэзідэнта.**

- Неабходна ўважліва пагглядзець на праблему так званага страхавога стажу для вайскоўцаў. Гэта няправільна, калі выслуга гадоў на ваеннай службе наогул не залічваецца ў страхавы стаж, неабходны для прызначэння працоўнай пенсіі, - лічыць Аляксандр Лукашэнка.

У выніку вайсковец, звольнены без ваеннай пенсіі, але які праслужыў 10, 15 і больш гадоў, павінен нароўні з учарашнім студэнтам у сталым узросце адпрацаваць яшчэ 20 гадоў для атрымання працоўнай пенсіі.

- Такая сітуацыя асабліва несправядлівая па адносінах да ваеннаслужачых, якія звальняюцца са службы без ваеннай пенсіі па не залежных ад іх прычынах, - сказаў прэзідэнт.

Да 2014 года страхавы стаж, які ўлічваецца пры вызначэнні права на працоўную пенсію, складаў 5 гадоў. А са1 студзеня 2014 года яго павялічылі да 10 гадоў, праз год - да 15 гадоў. У 2015 годзе ён ужо складаў 15 гадоў і 6 месяцаў. З пачатку гэтага года страхавы стаж паднялі яшчэ на паўгода, цяпер ён складае 16 гадоў. Штогод гэтая планка будзе павялічвацца на 6 месяцаў - да 20 гадоў.

Цяпер беларусы, якія не выпрацавалі страхавы стаж па новых правілах, трапляюць у «пенсійную пастку»: яны не могуць прэтэндаваць на працоўную пенсію, ім могуць прызначыць толькі сацыяльную. Сярод праблемных катэгорый - вайскоўцы і жанчыны, якія некалькі разоў былі ў дэкрэтным адпачынку або даглядалі за дзецьмі-інвалідамі.

- Такая праблема ёсць, - сказаў у студзені ў Палацы прадстаўнікоў на круглым стале пра стан і перспектывы пенсійнай сістэмы намеснік міністра працы і сацыяльнай абароны Валерый Кавалькоў, адказваючы на пытанне аб тым, як быць, да прыкладу, з былымі вайскоўцамі. - Але давайце паглядзім на лічбах. Ёсць перыяды выслугі па 16-18 гадоў, але давайце будзем ўлічваць, што выслуга пачынае лічыцца з моманту тэрміновай службы - з 18 гадоў. Нават калі ён выслужыцца 18-19 гадоў, гэта будзе досыць дужы мужчына ва ўзросце да 40 гадоў (...). Атрымліваецца, што яму за 20 гадоў трэба выпрацаваць 16 гадоў стажу. Калі аналізуем звароты такіх людзей, мы бачым, што не ваенная служба пазбаўляе іх права на пенсію, а тое, што яны на працу 10-15 гадоў проста не працавалі наогул ці працавалі па «шэрых» схемах.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Астравец.** Канцлер Германіі А. Меркель пасля сустрэчы з прэзідэнтам Літвы Д. Грыбаўскайтэ запатрабавала допуску на ўзводзімую АЭС міжнародных інспектараў.

**Мінск.** Ранейшых адносін з Расіяй, як заявіў доктар палітычных навук П. Усаў, ужо не будзе, бо Масква разглядае Беларусь як частку сваёй імперыі, яна не пойдзе насустрач нам.

**Гомель.** Суд Цэнтральнага раёна горада спыніў разгляд справы аб адмене дэкрэта аб "дармаедах", якімі ў вобласці прызналі 80 тыс. чалавек, тут была масавая акцыя пратэсту.

**Брэст.** Абласная падатковая інспекцыя вызваліла ад выплаты падатку на "дармаедаў" 13 тысяч чалавек, але з іх 12 тысяч сталі працаваць за граніцай, дома няпроста з працай.

**Мінск.** Палітолаг В. Карбалевіч заявіў, што незадавальненне ў грамадстве дэкрэтам № 3 – масавае, яно стала адлюстраваннем усіх недахопаў сацыяльнай мадэлі ў перыяд крызісу.

**Баранавічы.** У рамках комплекснай праверкі боегатоўнасці Узброеных сіл Беларусі самалёты МіГ-29 в/ч 54804 перадыслацыравалі адсюль на запасны аэрадром у Бабруйску.

**Мінск.** Адзіная краіна, як папярэдзіў філосаф У. Мацкевіч, на якую яшчэ можа ціснуць Расія – Беларусь з-за залежнасці ад імпарту нафты і газу, расце пагроза інкарпарацыі.

**Гродна.** Абласны Эканамічны суд вырашыў вярнуць у камунальную ўласнасць комплекс будынкаў піўзавода над Нёманам, помніка архітэктуры канца 19 стагоддзя, які разбураўся.

**Мінск.** Ніякіх 500 USD зарплаты, як заявіў былы прэм'ер-міністр Беларусі М. Чыгір, сёлета не будзе і ўвогуле незразумела, навошта ставіць такія фантастычныя задачы.

**Бабруйск.** Падчас выканання планавых палётаў пры разгоне загараўся рухавік самалёта МіГ-29, пілот вымушаны быў катапульціравацца, самалёт зваліўся на аэрадроме.

**Брэст.** Каля апоўначы п'яны 32-гадовы пешаход з нажом напаў на супрацоўніка ДАІ, калі той падвёз хлопца дамоў пасля аказання медадапамогі і стаў перадаваць ягонаму бацьку.

**Іванава.** Па ініцыятыве рэдактара І. Гетмана, падтрыманай чытачамі і ўладамі раёна, мясцовая раённая газета "Чырвоная звязда" змяніла сваю назву на "Янаўскі край".

**Гомель.** Людзі збяднелі, як папярэдзіў праваабаронца Л. Судаленка, і калі ва ўладзе засталіся разумныя сілы, то яны павінны ўстанавіць мараторый на выкананне дэкрэта № 3.

**Мінск.** Чыноўнікі Міністэрства культуры выключылі са спісу творчых саюзаў Саюз беларускіх пісьменнікаў і ПЭН-цэнтр, іх творцаў могуць прызнаць "дармаедамі".

**Столін.** Вечарам на пункце пропуску "Верхні Церабежаў" службовая аўчарка нечакана напала і пакусала 3-гадовую дзяўчынку, якая з сям'ёй перасякала граніцу з Украінай.

*Служба інфармацыі "ВГ"(па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** У ліку 22 прадпрыемстваў краіны Дзяржкаммаёмасць Беларусі прапанавала Кітаю купіць тэлезавод "Віцязь", мінскае ААТ "Гарызонт" з кантрольным пакетам акцый.

**Глыбокае.** Два залатыя і сярэбраны медалі атрымалі кансервы згушчонкі і слівак мясцовага МКК на XXIV Міжнароднай выставе прадуктаў "Харчэкспа-2017" у Маскве.

**Паставы.** Абласны эканамічны суд распачаў справу аб банкруцтве дзвюх гаспадарак раёна – "Парыжагра" і "Вярэнькі-агра", там могуць застацца без працы 121 і 87 чалавек.

**Шуміліна.** Пасля мадэрнізацыі на Обальскім керамічным заводзе наладзілі выпуск аблегчанай пустацелай цэглы, на чарзе вытворчасць цэглы розных колераў для абліцоўкі.

**Докшыцы.** На безадходную вытворчасць перайшоў дрэваапрацоўчы цэх Бягомльскага лясгаса, тут пачалі выпускаць на экспарт паліўныя гранулы са шчапы драўніны і апілак.

**Лепель.** Раніцай у выніку сутыкнення ў Старым Лядне грузавіка ГАЗ-53 з іншамаркай на месцы ДТЗ памёр 35-гадовы кіроўца легкавушкі, траўмы атрымала жанчына і двое дзетак.

**Гарадок.** Пасля рамонту ў вялікай спартзале СШ № 2 райцэнтра адкрыўся адзін з самых буйнейшых у Беларусі скаладромаў для дзяцей, тут працуе гурток спартыўнага турызму.

**Глыбокае.** Да 5 гадоў турмы пагражае 20-гадоваму беспрацоўнаму з вёскі Шунеўцы, які п'яны вырашыў пакатацца на чужым аўто і быў затрыманы вечарам міліцыяй у райцэнтры.

**Дуброўна**. Пільныя жыхары прыгранічнай вёскі дапамаглі міліцыі затрымаць двух расіян, якія спрабавалі скрасці збожжаўборачны камбайн адной з гаспадарак раёна.

**Орша.** Вечарам у гарбальніцу даставілі з чэрапна-мазгавой траўмай 55-гадовага мужчыну, якога хацеў забіць тапаром пасля сумеснай выпіўкі пенсіянер у сваім доме.

**Мёры.** У раённым Доме культуры прайшоў чарговы злёт выпускнікоў школ, з імі сустрэліся выкладчыкі з 20 ВНУ і сярэдне спецыяльных навучальных устаноў вобласці.

**Полацк.** Вечарам у цемры на пешаходным пераходзе чыгуначнай станцыі 57-гадовая жанчына перабягала праз пуці, патрапіла пад праходзячы поезд і загінула.

**Паставы.** Рэзідэнт Парка высокіх тэхналогій, кампанія IBA-Group услед за Варапаеўскай і Камайскай школамі падаравала сучасны камп'ютарны клас і для СШ № 1 райцэнтра.

**Браслаў.** На працягу тыдня ў раёне адбыліся 3 самазабойствы, рахункі з жыццём звялі 30-гадовы вясковец, 79-гадовы пенсіянер і 52-гадовая браслаўчанка на сваёй дачы.

**Наваполацк.** Пасля капрамонту колькасць жадаючых паплаваць у Палацы воднага спорту "Садко" з адзіным у вобласці 50-метровым басейнам, наведаць саўну вырасла ў 2 разы.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Біскуп Алег Буткевіч наведаў прыватную галерэю Ады Райчонак

**Грамадская актывістка, педагог, пенсіянер Ада Эльеўна Райчонак з Германавічаў, стварыла прыватную галерэю карцін работ беларускіх мастакоў. Акрамя таго спадарыня Ада, штогод ладзіць у Германавічах мастацкія пленэры, ізноў жа, штогод, арганізоўвае краязнаўчыя канферэнцыі, куды лічуць за гонар прыехаць гісторыкі і краязнаўцы не толькі з усёй Беларусі, але і з замежжа.**

Апошнімі гадамі у Германавічах набыў папулярнасць Бульбяны фэст, які ладзіцца спадарыняй Адай на панадворку яе прыватнай галерэі. На Бульбяны фэст, са сваімі прыгатаванымі дома стравамі з бульбы, прыязджае шмат краязнаўцаў, журналістаў, музыкаў – з Глыбокага, Браслава, Мёраў, Полацка і Шаркоўшчыны.

Нядаўна, падчас першага дня візітацыі біскупа Віцебскай дыяцэзіі Алега Буткевіча ў германавіцкую парафію ў суботу, 4 сакавіка, ён наведаў прыватную галерэю Ады Рачонак.

Спадарыня Ада пазнаёміла віцебскага ардынарыя са сваёй калекцыяй, распавяла пра гісторыю яе стварэння. Карціны ў галерэі знаходзяцца ў некалькіх пакоях, яны падзелены на асобныя экспазіцыі. Адна з іх прысвечана яе сыну Міхасю Райчонку, які заўчасна пайшоў з жыцця ў 1999 годзе. Было тады Міхасю толькі дваццаць шэсць гадоў, у яго было шмат творчых задумак. Тады ж Ада Эльеўна дала слова, што прадоўжыць справу свайго сына. І слова гэта стрымала.



Ада Райчонак і біскуп Алег Буткевіч у прыватнай галерэі Ады Райчонак у Германавічах.

У калекцыі Ады Райчонак ёсць карціны, прысвечаныя Халакосту, Васілю Быкаву і яго малой радзіме — вёсцы Бычкі, Рыгору Барадуліну, Эміліі Плятэр, Кастусю Каліноўскаму, Уладзіміру Караткевічу, іншым знакамітым асобам. Адну з экспазіцый складаюць творы мастака Уладзіміра Кандрусевіча, пляменніка арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча.

Таксама асобная экспазіцыя прысвечаная нашым храмам. Праўда, прызнаецца Ада Райчонак, мастакі не вельмі любяць пісаць праваслаўныя святыні. І справа тут не ў нейкай рэлігійнай неталерантнасці, а ў тым, што большасць нашых праваслаўных храмаў прадстаўлена так званымі «мураўёўкамі», цэрквамі, што будаваліся пасля паразы паўстання пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. Тады па загадзе расійскага генерал-губернатара Міхаіла Мураўёва, вядомага як Вешальнік, на нашых землях будаваліся цэрквы па адзіным праекце, які прадстаўляў чужую для нашых зямель архітэктуру.

Напрыканцы біскуп Алег Буткевіч пакінуў запіс у кнізе ганаровых гасцей і падзякаваў Адзе Эльеўне Райчонак за цікавы расповед пра сваю галерэю.

***Паводле Зміцера Лупача.***

# Штраф за незаконна вылаўленага шчупака – 207 рублёў!

**Аляксей Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

**Як толькі вясна ўступіла ў свае правы, у прыродзе ўсё ажыло, прыляцелі першыя вясновыя птушкі, звяры ўжо вывелі нашчадкаў, рыба пачала нераст. У гэты перыяд на тэрыторыі ўсёй краіны Міністэрствам прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя ўведзены пэўныя абмежаванні і забароны на прамысловую і аматарскую лоўлю.**

Так, з **9 сакавіка** на тэрыторыі Віцебскай вобласці забароненая лоўля шчупака, забарона на лоўлю шчупака падоўжыцца да **25 красавіка**.

**Вылоўліванне ўсіх відаў рыбы на тэрыторыі Віцебскай вобласці забараняецца з 10 красавіка па 8 чэрвеня,** за выключэннем аматарскага рыбалоўства, якое здзяйсняецца адной вудай з адным кручком ці адным спінінгам, у светлы час сутак з берага без заходу ў ваду, са штучных збудаванняў. Ва ўказаны перыяд часу ўводзяцца асобныя абмежаванні толькі на перыяд нерасту, напрыклад – выкарыстанне грамадзянамі маламерных судоў, лоўля рыбы толькі адной вудай і толькі з берага, без заходу ў ваду.

У перыяд забароны і нерасту рыбы ўрон за незаконна здабытую рыбу разлічваецца ў 3-х кратным памеры яе кошту. Так, кошт 1 асобіны шчупака незалежна ад яе памеру складае, у перыяд забароны 207 рублёў.

Як, паказала практыка мінулых гадоў, у перыяд вясновага нерасту рыбы актывізуюцца браканьеры. Карыстаючыся тым, што рыба ў дадзены перыяд часу актыўная, не вельмі асцярожная, у сувязі з нераставаннем, браканьеры рознымі варварскімі спосабамі спрабуюць налавіць больш, не думаючы пра наступствы,



Знаходжанне грамадзян з забароненымі прыладамі рыбалоўства (сеткамі, восцямі, мярэжамі і г.д.) у рыбалоўных угоддзях таксама цягне адміністрацыйную адказнасць у выглядзе штрафу да 30 базавых велічынь, сам факт здабычы рыбы гэтымі снасцямі не абавязковы, тлумачэнне асобных хітрых грамадзянаў, што забароненую снасць ён знайшоў на беразе, законам не прымаецца.

Штогод, у перыяд вясновага нерасту супрацоўнікі інспекцыі і міліцыі затрымоўваюць дзясяткі, а па краіне тысячы браканьераў, але, на жаль, прага нажывы, прага забіць бездапаможную рыбіну, мацней.

У перыяд вясновага нерасту шчупака супрацоўнікамі міжрайінспекцыі ў месцах найболей актыўнага нерасту паблізу вадаёмаў будуць усталёўвацца відэакамеры-пасткі, якія працуюць у кругласутачным рэжыме запісу, у т.л. і ў начны час праводзяць відэазапіс, месцы ўсталёўкі відэакамер не ўказваюцца.

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету заклікае грамадзян актыўна дапамагаць супрацоўнікам у спыненні фактаў браканьерства, бо толькі з вашай дапамогай, неабыякавых да нашай прыроды людзей, мы зможам паставіць надзейны заслон браканьерам. **Людзі, не будзьце абыякавымі да браканьераў, беражыце прыроду!** Тэлефоны "гарачай лініі" кругласутачна: 8-02156: 5-59-80; 897-23-02; 890-55-28; 249-45-49; 645-66-78 (МТС).

Будзем удзячныя за любую дапамогу ў ахове прыродных рэсурсаў нашай краіны.

**У Глыбоцкім раёне праходзіць акцыя**

# "Дзень бяспекі. Увага ўсім!!!"

З першых дзён сакавіка працаўнікі Глыбоцкага РАНС актыўна прыняліся да ўдзелу ў акцыі ва ўстановах адукацыі. На 1-м этапе акцыі, які праходзіў 1-6 сакавіка, мерапрыемствы пачыналіся з агульнашкольных адпрацовак планаў эвакуацыі, пасля чаго навучэнцы школ і дзіцячых садкоў збіраліся на агульны сход. Спачатку разбіралі дзеянні па эвакуацыі, а затым распавядалі пра акцыю, якая праводзіцца, яе мэты і задачы. Тлумачылі аб тым, якія бываюць сігналы, як паводзіць сябе ў той ці іншай сітуацыі. Завастралі ўвагу на тым, што надзвычайная сітуацыя можа адбыцца ў любым месцы і ў любы час, а таксама гаварылі пра тое, як правільна трэба дзейнічаць. Адразу пасля лекцыі праводзіліся тэматычныя конкурсы і вікторыны, былі прадэманстраваныя відэастужкі "Школа бяспекі" і "Дзеянні па сігнале "Увага ўсім!"".

2-і этап акцыі стартаваў 9 сакавіка і будзе доўжыцца да 19 сакавіка. Мэтавая аўдыторыя – бацькі. З мэтай падвышэння ўзроўню культуры бяспекі жыццядзейнасці падрастаючага пакалення, бацькоў навучэнцаў у вобласці абароны ад НЗ прыроднага і тэхнагеннага характару бацькам распавядаюць аб гэтай акцыі, асноўных правілах пажарнай бяспекі, а таксама аб недапушчальнасці пакідання дзяцей без нагляду. Падчас свайго выступу працаўнікі РАНС прасілі бацькоў прымаць актыўны ўдзел у акцыі "Ганарымся, што навучылі!" і звярнуць увагу на прыкладанне для мабільнага тэлефона "МНС Беларусі. Дапамога побач", якое не займае шмат памяці і будзе вельмі карысна не толькі дзецям, але і бацькам. У ім утрымоўваецца інфармацыя пра тое, як паводзіць сябе, калі разбіўся градуснік, здарыўся пажар, у хату запаўзла змяя і шмат чаго іншага.

*Глыбоцкі РАНС.*



## МНС інфармуе

**на 14.03.2017 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 163;
Гібель людзей – 29, з іх дзяцей няма;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 11;
Гібель людзей – 0, з іх дзяцей няма

***

За **2016 год** у раёне адбылося **20** пажараў, на якіх загінула **6** чалавек.
За **2015 год** у раёне адбылося **36** пажараў, на якіх загінулі **3** чалавекі.

■ Уладзімір Скрабатун

# У Глыбокім будзе яшчэ адно свята – Міжнародны рэгіянальны дударскі фэст!

**6-7 траўня ў Глыбокім адбудзецца першы Міжнародны рэгіянальны дударскі фэст.**

У глыбоцкіх прадпрымальнікаў з'явіцца яшчэ адна ўнікальная магчымасць – да гэтага музычнага свята рэалізаваць сябе ў вырабе розных памятных сувеніраў: футболак, кепак, кубкаў, паштовак!

**Віталь Воранаў, беларускі перакладчык, літаратар, выдавец, публіцыст і ўніверсітэцкі выкладчык, былы вучань Глыбоцкай СШ№2, а сёння жыхар Познані (Польшча), выкладчык ірландскай літаратуры ва ўніверсітэце г. Брно (Чэхія), не забывае сваёй радзімы! Улетку прыязджае і жыве ў дзедавай хаце ў Удзеле. Займаецца адраджэннем дударскіх традыцый на Глыбоччыне. У пачатку траўня, з ініцыятывы Віталя Воранава, у Глыбокім адбудзецца першы Міжнародны рэгіянальны дударскі фэст.**

### Чаму – адразу Міжнародны і рэгіянальны?

– 6-7 траўня ў Глыбокім адбудзецца першы рэгіянальны, але Міжнародны, дударскі фэст у Беларусі,– кажа спадар Віталь аўтару гэтых радкоў. – Чаму Міжнародны і рэгіянальны? Таму, што бяруць удзел не толькі дудары з Беларусі, але і госці з замежжа. Аднак прадстаўляць яны будуць не столькі свае краіны, колькі свае рэгіёны. Напрыклад, чэхі прыедуць да нас з Маравіі – будуць прадстаўляць гістарычную краіну Мараву ў межах Чэшскай Рэспублікі і менавіта свой фальклор, сваю дударскую традыцыю. Тое самае з Бельгіяй, а таксама з палякамі, якія будуць прадстаўляць рэгіён Вялікапольшчу ў межах Польшчы і г.д.

### Пачнём з Алеі славутых землякоў

– Пачнецца ўсё ў суботу 6 траўня а 11:30 на Алеі славутых землякоў з абыграння бюста Ігната Буйніцкага,– працягвае Віталь Воранаў. – Ёсць такая традыцыя абыграння помнікаў, знакавых месцаў, дзе дудары, проста, не фармальна, імправізавана выступаюць, каб ушанаваць памяць пра нейкага важнага, звязанага з дударскай традыцыяй чалавека. У нашым рэгіёне, натуральна, гэта – Ігнат Буйніцкі, у трупе якога быў свой дудар – Адам Шульга. Вось, каб уганараваць памяць, уганараваць яго ўнёсак у дударскую традыцыю, мы і пачнём менавіта з імправізаванага канцэрта на Алеі славутых землякоў.

Затым пяройдзем у музычную школу. Недзе, а 12-й гадзіне, там адбудзецца канцэрт для навучэнцаў школы і выкладчыкаў розных музычных інструментаў. Магчыма хтосьці з таленавітых навучэнцаў выступіць на нейкім музычным інструменце, каб паказаць тут нашу музычную традыцыю. Недзе з гадзіну працягнецца гэты канцэрт. Пасля, прыкладна а гадзіне 13:15, усе дудары пройдуць такім спантанным пахо-




**Паштоўка пачатку ХХ ст (дарэвалюцыйная). На ёй – беларускі дудар з нашага Дзісненскага павету.**

дам – ад музычнай школы да галоўнай сцэны фэсту на Цэнтральным пляцы. А 13:30, калі будзе добрае надвор'е, тут запланаваны пачатак канцэртнай праграмы – гала-канцэрт. Пры кепскім – ён адбудзецца ў Тэатральнай зале імя Ігната Буйніцкага. На канцэрце будуць прадстаўленыя ўсе традыцыі вышэй згаданых гасцей, а каб прадставіць нашыя традыцыі, мясцовы фальклор, выступіць "Цярэшка", прадстаўляючы, перадусім, традыцыю танцаў на Беларусі, і асабліва, з націскам на Глыбоччыну.

### Нагадаем у Празароках пра Адама Шульгу

– Потым, усе садзяцца ў транспарт – а 19-й мусім быць у Празароках. Там, дзесьці з разлікам на паўтары гадзіны – канцэртная праграма. На заканчэнне першага дня дударскага фэсту – адпачынак на турыстычнай базе ў Івесі.

### Заміж аргана – дуда!

– На наступны дзень, у нядзелю, з 11:00, працягваем з касцёла ў Удзеле. Ёсць такая еўрапейская традыцыя ў Польшчы, Славаччыне, Нямеччыне – дудары вельмі часта граюць на службе. Інструмент дуда даўней вельмі часта выкарыстоўваўся ў касцёлах, асабліва, калі ў ім не было аргана. Гучанне дуды – досыць падобнае да гучання аргана. Вельмі добра падыходзіць пад касцёльную акустыку. Там будзе служба недзе да 12:30, гучанне на ёй дуды ўжо ўзгодненае з нашымі французскімі. Пасля службы, таксама, невялікі нефармальны выступ.

Пасля Удзела – недзе а 13:00 – ад'езд у Мосар. Абыход дударамі прыкасцёльнай тэрыторыі, каб яны маглі пазнаёміцца з тамтэйшых славутасцямі. Магчымы там і невялікі нефармальны выступ. А 14:30 – абед.



**Віталь Воранаў на Бульбяным фэсце ў Германавічах, 13.08.2016.** *Фота Ул. Скрабатуна.*

### Куточак дуды – у раённай бібліятэцы

– А 16:30 – важная падзея! На заканчэнне дударскага фэсту – у Глыбоцкай раённай бібліятэцы адбудзецца ўрачыстае адкрыццё пастаяннай выставы, прысвечанай дудзе ў беларускай літаратуры. То бок будуць прадстаўленыя кнігі, творы беларускіх аўтараў, для якіх дуда стала такім знакавым сімвалам для ўсёй іх творчасці. Былі ж сярод іх і псеўданімы – Дудар, і самі ў ліставаннях называлі сябе дударамі і песнярамі. Там, у глыбоцкай бібліятэцы, будзе першая на Беларусі падобная калекцыя. Афіцыйна заснаваная! У ёй будуць і рэдкія кнігі. Імаверна гэта ў далейшым стане і сталай экспазіцыяй. Пры жаданні можна будзе заўсёды зайсці ў асобны такі пакойчык, вызначаны куток. Там пад шклом будуць экспанавацца гэтыя кнігі. У Глыбоцкай раённай бібліятэцы і адбудзецца заканчэнне фэсту.

Спадзяюся, што і мастацкая школа імя Язэпа Драздовіча правядзе дзіцячы конкурс малюнкаў на тэму беларускай дуды і вобраза дудара.

За два месяцы да фэсту магчыма шмат чаго яшчэ і дадасца.

***– Дзякуй спадар Віталь!*** І такое "сакраментальнае" пытанне: ***"Ці прыедуць да нас у "спадніцах" дудары з Шатландыі?"***

– Вельмі магчыма! Жаданне ў аднаго з іх, перадусім, ёсць – прыехаць у Беларусь. Ну, скажам так, калі палякі пагодзяцца прыхапіць яго да сябе ў аўта па дарозе на Глыбокае.

Неўзабаве мусіць быць канчаткова зацверджаная праграма дударскага фэсту, якую я прадстаўлю для апублікавання.

***

Удзельнікі дударскага фэсту, і сам Віталь Воранаў, будзе заняты гасцямі і паездкамі па Глыбоччыне. Таму хацелася б звярнуцца з прапановай да суарганізатараў дударскага фэсту з боку райвыканкама. Можна свята ў Глыбокім і пашырыць! Увечары суботы, ці нядзелі, зладзіць на адной з плошчаў Глыбокага – Цэнтральнай, ці 17 Верасня – сярэднявечную дыскатэку для моладзі, і не толькі для моладзі! Запрасіць адпаведны гурт сярэднявечнай музыкі, напрыклад, "забойны" гурт "Літы Талер", ці "Стары Ольса". І рыцараў з Полацка мабілізаваць! Напрыканцы – фаер-шоў. Дуда – музыка часоў рыцарства і Вялікага княства Літоўскага, нашай старажытнай дзяржавы!



**Трупа Ігната Буйніцкага, 1912 год. Злева ў першым шэрагу – дудар Адам Шульга.**

■ **С.С.Цырбан,**
*старэйшы інспектар па дазваленчай рабоце аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі Глыбоцкага РАУС, капітан міліцыі.*

# Асоба, якая добраахвотна здала зброю і боепрыпасы, вызваляецца ад крымінальнай адказнасці

Звяртаю Вашу ўвагу, што ва Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 26.04.2010 года №200 "Аб адміністрацыйнай працэдуры, якая здзяйсняецца дзяржаўнымі органамі і іншымі арганізацыямі па заявах грамадзян" у пералік дакументаў, што прадстаўляюцца грамадзянамі для ажыццяўлення адміністрацыйнай працэдуры па падаўжэнні тэрмінаў дзеяння дазволу на права захоўвання грамадзянскай зброі (21.4), занесены змены і дадаткі.

**З 26 красавіка 2017 года пры падаўжэнні тэрмінаў дзеяння дазволу на права захоўвання і нашэнне грамадзянскай зброі яго ўладальніку неабходна падаваць медыцынскую даведку аб стане здароўя.**

**Заява аб падаўжэнні тэрміну дзеяння дазволу падаецца за месяц да заканчэння тэрміну яго дзеяння і разглядаецца органам унутраных спраў на працягу аднаго месяца з дня падачы заявы.**

Таксама інфармую, што **несваечасовасць падаўжэння тэрмінаў дзеяння** дазволу на права захоўвання грамадзянскай зброі, у тым ліку пастаноўка зброі на ўлік пры змене месца жыхарства, цягне за сабой адказнасць, прадугледжаную Кодэксам аб адміністрацыйных правапарушэннях Рэспублікі Беларусь (далей – КоАП) па артыкуле 23.49 КоАП у выглядзе **штрафу ад 4 да 15 базавых велічынь.**

Паводле артыкула 24 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб зброі" юрыдычным асобам і грамадзянам забараняецца захоўваць і выкарыстоўваць знойдзеную ці перададзеную ім зброю, уласнікамі якога яны не з'яўляюцца. Такая зброя падлягае неадкладнай здачы ў органы ўнутраных спраў.



За незаконнае захоўванне зброі і боепрыпасаў, у тым ліку выраб, набыццё, перадача ў валоданне, збыт, захоўванне, перавозка, перасыланне ці нашэнне агнястрэльнай зброі і боепрыпасаў да яе, выбуховых рэчываў, выбухных прылад, прадугледжана крымінальная адказнасць па артыкуле 295 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь у выглядзе выпраўленчых работ на тэрмін да двух гадоў, ці арышту, альбо абмежаванне волі на тэрмін да пяці гадоў, ці пазбаўленне волі на тэрмін да сямі гадоў з канфіскацыяй маёмасці ці без канфіскацыі.

**Нагадваем, што асоба, якая добраахвотна здала зброю і боепрыпасы, вызваляецца ад крымінальнай адказнасці за дзеянні, прадугледжаныя дадзеным артыкулам, акрамя выпадкаў збыту.**

У пазбяганне крадзяжу зброі і боепрыпасаў, а таксама асабістай маёмасці грамадзян нагадваем пра неабходнасць падключэння жылля, месцаў захоўвання зброі грамадзян пад ахову Глыбоцкага аддзела Дэпартамента аховы.

Хацелася б звярнуцца і да тых асобаў, якія валодаюць інфармацыяй пра асобаў, якія незаконна захоўваюць зброю, што займаюцца незаконным паляваннем, і іншай супрацьпраўнай дзейнасцю, звязанай са зброяй. Калі Вы валодаеце дадзенай інфармацыяй, то Вы можаце паведаміць пра гэта на **"гарачую лінію"** Глыбоцкага РАУС, на тэл.: **2-27-02, 2-26-82, 2-26-41, 21423 маб. +375 29 597-21-74 МТС**. Ананімнасць гарантуецца.

Неабходную інфармацыю можна атрымаць па тэлефоне: **2-14-23** (старэйшы інспектар па дазваленчай працы аддзялення аховы правапарадку і прафілактыкі Глыбоцкага РАУС), 2-26-82 (аддзел аховы правапарадку і прафілактыкі Глыбоцкага РАУС), 597-21-74 (МТС), 314-89-02 (велком), 2-27-02 і 102 (аператыўна-дзяжурная служба Глыбоцкага РАУС).

■ **А.А. Майсяёнак,**
*першы намеснік начальніка Глыбоцкага РАУС.*

# Стань бачным – будзь у бяспецы!

У мэтах прафілактыкі і папярэджання дарожна-транспартных здарэнняў з удзелам пешаходаў, папулярызацыі выкарыстання святлоадбівальных элементаў у цёмны час сутак (прамежак часу, які пачынаецца пасля заходу сонца і сканчаецца з узыходам сонца), Дзяржаўтаінспекцыя з 07.03.2017 па 17.03.2017 г праводзіць прафілактычную акцыю «Стань бачным – будзь у бяспецы!».

Дзеянні кіроўцы на 90% залежаць ад атрымоўванай ім візуальнай інфармацыі. У цёмны час сутак чалавечае вока ўспрымае толькі 5% ад таго, што ён у стане адрозніць днём. Таму, увечары, з 16 да 24 гадзін, па статыстыцы фіксуецца самая большая колькасць дарожных аварый.

Пераважная колькасць аварый – гэта наезды аўтатранспарту на пешаходаў, калі кіроўца занадта позна выяўляе ідучага па дарозе чалавека ў цёмны час сутак, асабліва, калі пешаход апрануты ў занадта цёмнае адзенне, якое зліваецца з фонам дарожнага палатна і навакольнага асяроддзя, а ў горадзе гэта праблема пагаршаецца візуальным шумам, святлом фар ад сустрэчнай транспартнай плыні. Кіроўца заўважае пешахода з адлегласці не больш чым у 25 – 30 метраў, і нават пры хуткасці руху 50 км/гадзіну прыпынкавы шлях аўтамабіля перавышае дадзеную дыстанцыю.

У Правілах дарожнага руху, зацверджаных Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, замацавана норма абавязковага выкарыстання светазваротных элементаў у цёмны час сутак пры руху па краі праезнай часткі, а таксама носіць рэкамендацыйны характар пры яе перасячэнні.

Кіроўцы бачаць пешахода, які мае светазваротныя элементы, са значна большай адлегласці ў параўнанні з пешаходамі без іх, адлегласць, з якой бачны «пазначаны пешаход», павялічваецца ў 1,5 – 3 разы, рызыка наезду транспартнага сродку змяншаецца на 85%.

Паколькі чалавек увесь час рухаецца, прамяні святла падаюць на яго пад рознымі вугламі, адмысловае начынне святловяртальнікаў дазваляюць адлюстроўваць святло ў тым кірунку, адкуль яно падае, святлоадбівальны элемент будзе бачны заўсёды: дождж, смуга, снег, град – не перашкода.

Нагадваем, што адміністрацыйным заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, за парушэнні Правіл дарожнага руху, у частцы пазначэння сябе ў цёмны час сутак пры руху па краі праезнай часткі светазваротным элементам, паводле часткі 1 артыкула18.23 КоАП Рэспублікі Беларусь, прадугледжана адказнасць у выглядзе папярэджання ці накладання штрафу ў памеры ад адной да трох базавых велічынь, калі ж дадзенае парушэнне здзейснена ў стане алкагольнага ап'янення ці ў стане, выкліканым спажываннем наркатычных рэчываў, псіхатропных рэчываў, іх аналагаў, таксічных ці іншых адурманьваючых рэчываў, а роўна адмова ад праходжання ва ўсталяваным парадку праверкі (агляду) на прадмет вызначэння стану алкагольнага ап'янення або стану, выкліканага спажываннем наркатычных сродкаў, псіхатропных рэчываў, іх аналагаў, таксічных ці іншых адурманьваючых рэчываў, то адказнасць настае па частцы 2 артыкула 18.23 КоАП Рэспублікі Беларусь, дзе ўжо прадугледжана адміністрацыйная адказнасць у выглядзе штрафу ў памеры ад трох да пяці базавых велічынь.




**Паважаныя дарослыя!** Выходзячы на вуліцу, асабліва ў вячэрні час, клапаціцеся пра тое, каб Вы і Ваша дзіця былі пазначаны святлозваротнымі элементамі, прымацаванымі да адзення, сумачкі ці ранца. Будзьце ўпэўненыя: кіроўцы не прапусцяць сігнал такога талісмана!

# Канцэрт "VOLSKI 172" у Вільні

**8 траўня (вялікія выходныя) у Вільні Лявон Вольскі прадставіць праграму «172», у межах якой прагучаць лепшыя песні за ўсю кар'еру музыкі: ад гурта «Мроя» да найноўшага сольнага альбома «Псіхасаматыка». Беларусы маюць магчымасць атрымаць бясплатныя візы.**

У канцэрце возмуць удзел Алесь-Францішак Мышкевіч, Павел Аракелян, а таксама нарвежскія музыкі Снорэ Бергеруд, Бьёрн Холмслэнд і Сіндрэ Скэе, з якімі Лявон Вольскі запісваў альбомы «Грамадазнаўства» (2014) і «Псіхасаматыка» (2016). Выступ адбудзецца ў клюбе Vakaris Vilnius у цэнтры Вільні.

«172» – гэта не толькі найпрасцейшая адлегласць паміж Мінскам і Вільняй, але і прыблізная колькасць хвілін у канцэрце.

**Дзякуючы падтрымцы МЗС Літвы, беларусы маюць магчымасць атрымаць бясплатныя візы (без консульскага збору) з тэрмінам дзеяння з 7 да 9 траўня ўключна выдаецца грамадзянам Беларусі на падставе набытых у Беларусі квіткоў на мерапрыемства.**




Квіткі: 49 рублёў (танцпляц), 69 рублёў (месца за столікам)

Продаж квіткоў без камісіі: офіс ІП Каспяровіч Д.А., г. Мінск, вул. Кульман 9, (гандлевы цэнтр "Манетка" каля Камароўскага рынку) чацверты паверх, каб. 1, уваход з вуліцы, дзверы правей ад кавярні Wine and Beer.

Продаж: на сайце і ў касах Kvitki.by, а таксама ў салонах «Связной» і «Евросеть» па ўсёй Беларусі.

Пляцоўка: клуб Vakaris Vilnius – Вільня, вул. Stulginskio, 8.

Пачатак мерапрыемства: 19.00, уваход з 18.00.

Інфалінія ў Беларусі: (029) 7777 857, (029) 622 57 20, г. Мінск, вул. Кульман 9.

***Ул.інф.***

